# НІВА

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БГКТ

№ 31 (544) 31 ЛІПЕНЯ 1966 г. Цана 60 гр


## УВАГА, ВУЧНІ V і VIII КЛАСАЎ!

Ужо ад наступнага нумара пачнем друкаваць чытанкі, якія будуць у падручніках. (Падручнікі выйдуць з друку ў канцы года). Матэрыялы V класа будуць друкавацца ў «Зорцы», для VIII класа — у «Ніве».

АДКРЫВАЕМ БЕЛАСТОЧЧЫНУ

# Ад Супраслі па Буг

Нас двух: я і брат Саша. Выбраліся мы матацыклам падарожнічаць на поўдзень ад ракі Супраслі, праз Бельшчыну ды Гайнаўшчыну аж да Драгічына над Бугам. Мне, журналісту «Нівы», гэтыя землі не навіна, а яму, брату, навіна. Паходзім з Сакольшчыны, адгароджанай Супраскімі лясамі, і ў нас, сакольскіх беларусаў, многа іншага: іншы ў нас дыялект мовы, іншы тэмперамент (сарамлівы!), вёскі бедныя, засушаныя, саламяныя... Без годнасці яны.

Сакольскім беларусам моцна імпануе Бельшчына і Гайнаўшчына сваёй беларускай патрыятычнасцю і... дабрабытам. Наша сімпатызуючае зацікаўленне бельска-гайнаўскай патрыятычнасцю пачынаецца ў Беластоку, на фабрычных забавах і інтымных прыватках. Кансеквенцыі таго паглыбляюцца. Сакольскія хлопцы ў Беластоку надта ахвотныя да бельска-гайнаўскіх дзяўчат, часамі бывае наадварот... Жэняцца. Сам я пабываў ужо на пару такіх вяселлях.

Прывезеныя музыканты з-пад Гайнаўкі рабілі фурор праз тры дні — захаплялі сваім раздольным спевам, музыкай, чаго няма на Сакольшчыне насычанай шляхецкай напышлівасцю. Раней такіх вяселляў у нас не бывала. Маем тут дачыненне напэўна з чымсці падобным да яднання гэтых дзвюх вялікіх беларускіх этнічных груп на Беласточчыне...

Сашкаў матацыкл прэцца па гасцінцах і сцежках. Едзем уздоўж ракі Нарва на ўсход, паўз лугавыя прасторы. Гэтыя прасторы ў вачах сакольскага чалавека з'яўляюцца першым знакам багацця і заможнасці. На Сакольшчыне сена бы святочны каравай, тут — штодзённы хлеб. Апоўдні заходзім да грамадскай рады ў Юшкавым Грудзе: першае прыемнае для Сашы ўражанне мілай прастаты працаўнікоў афіцыйнай адміністрацыі, якія не спазіраюць згары на наведвальнікаў, гавораць з імі па-свойму і адкрыта. Без важнасці.

Заначавалі мы ў Новым Ляўкове, на ўскраіне Белавежскай пушчы. Людзі прыветныя і шчырыя, і — як сцвердзіў Саша — нефанабэрлівыя дзяўчаты. Яму, сакольскаму кавалеру, дзіва-дзіўнае. Непасрэднасць — вось адметная рыса беларусаў на поўдзень ад ракі Супраслі, ад Супраскіх лясоў.

Ехалі мы праз Лянева, Ляды, Курашава, Койлы, Новаберазова — ехалі пакрай новабудаваных чынам дарог: шырокіх, з абкопамі. Для сакольскіх душ такія вялікія чыны выдаюцца як бы загадкай: колькі ж у нас, на Сакольшчыне, ёсць загубленых у бездарожжы вёсак, дзе нейк нікому не прыходзіць у галаву думка і ахвота ўзяць у свае рукі свой задрыпаны лёс. Апатыя? Несвядомасць? Магчыма, бесперспектыўнасць пясчаных гаспадарак, на якіх застаюцца толькі бабулі і дзядулі ўжо гарадскіх унучкаў. Такое Новаберазова ў параўнанні з нашымі Астравамі Нова-Паўднёва-Паўночнымі падобнае на гарадскую вуліцу з хатамі, якія ў Астравах мае мо 2—3 гаспадароў. Пішу гэтыя лічбы наўздагад, бо ніяк не маглі мы прыпомніць сабе хоць адну талковую нашаўяскоўую хату... Мо не ўсе хаты бачылі? Адчуваем, што нараджаецца ў нас пачуццё ніжэйшасці, пачуццё горшасці — і гэта цалкам зразумелае.

Пачынаем аб'езд паўднёвых аколіц Гайнаўшчыны, Бельшчыны і Сямяціцкага павета. Ого, тут нарэшце знаходзім выразнае падабенства да нашай сакольскай сітуацыі: бедная зямля. І на тым хіба канец падабенстваў... Бо гаспадарлівасць мясцовых людзей, а перад усім дружнасць цэлых вёсак, каб мог, перанёс бы жыўцом на Сакольшчыну, якая не выяўляе здольнасці да дзеяння на агульную карысць — да ўзаемнай дабразычлівасці. Вядома, суседская нянавісць бывае ўсюды, але тут яна іншага гатунку, я сказаў бы, канкрэтная яна, не так абстракцыйна зайздросная. У Мілейчыцах, пад Сямяцічамі, сустракаем на вуліцы Сяргея Крэйзу, мясцовага дзеяча БГКТ. Жыве ён тут амаль чвэрць веку. Родам з Малых Азяран на Сакольшчыне... Аказваецца, ужо шмат раней, чым нам здавалася, сяліліся тут сакольскія беларусы, прыносячы разам са сваёй асобаю шырэйшае паняцце аб беларушчыне на Беласточчыне — *ад Саколкі па Сямяцічы.*

Ад Мілейчыц, званых па-мясцоваму: Мілейчычы, да Драгічына (Дарагічына?) над Бугам заняло нам няцэлых дзве гадзіны язды, з перапынкам у Сямяцічах — у ціністым скверыку пасярод рынку. Працаўнік бензінавай станцыі, пачуўшы нашу беларускую размову, даў Сашы грацісавы (дарэмны) літр бензіну... Чаму? Бо ён шкадуе, што не навучыўся так гожай роднай мовы (?). Прызнацца, гэта ашаламіла нават мяне, прывыкшага да ўсялякіх дзіваў беларускай душы.

*(Працяг на стар. 5)*



Сямяціцкі рынак са старадаўнім касцёлам, каля аб'язнога кіно стаіць Саша са сваім нястомным матацыклам.

ВЕРШЫ З-ЗА МЯЖЫ



Ольга Іпатава
Гродна

## За акном зацвітаюць вяргіні...

За акном зацвітаюць вяргіні.
Чуеш, нехта пастукаў, Аўгіння!

Страпянулася соннае цела,
Здаецца, птушкай да яго паляцела!

Адзяжыну шукае рука,
Ды бяжыць да дзвярэй ужо дачка.

І адразу спыняюцца сны...
Той, другі, не вярнуўся з вайны.

Не пабачыў ніколі дачкі,
Толькі вершаў пакінуў радкі...

Думкі джаляць, як авадзень,
За акном пачынаецца дзень...

І дзівіцца дачка, крадучыся па хаце,
Што да самага ранку не спіцца маці...

## Раніца

Над зямлёй цішыня. Туманы
Дапаўзаюць да леса крадком,
І за бліжняй хатай старанна
Аб даёнку цурчыць малако.

Адуванчык чырвоны — сонца
Вырастае з прыцiхлай ракі.
Дзьмухне зараз вецер спрасонку —
Пырснуць промні ва ўсе бакі.

А зямля так даверлiва — проста
У харастве сваім паўстае,
Што міжволі з ног «шпількі» просяцца:
Незнарок не ўкалоць бы яе...

# Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі

## СВЕТ

### В'ЕТНАМСКІ НАРОД ПЕРАМОЖА

У мінулым тыдні (20 ліпеня) ва ўсім свеце адзначаўся дзень В'етнама. Па ўсім свеце адбыліся шматлікія дэманстрацыі і мітынгі, на якіх народы свету асуджаюць Злучаныя Штаты, якія вядуць брудную вайну ў В'етнаме. У сусветнай прэсе паявілася многа матэрыялаў аб сапраўдным выдатным гераізме в'етнамскага народа. Дзеля ілюстрацыі падаем некалькі сказаў, параўноўваючых В'етнам і ЗША. **В'етнам — (Паўночны і Паўднёвы) — больш чым у 30 разоў меншы ад Злучаных Штатаў Амерыкі па тэрыторыі. Насельніцтва** В'етнама **больш чым у 6 разоў меншае,** чым насельніцтва ЗША. Калі ж параўнаць эканамічныя патэнцыялы гэтых дзвюх дзяржаў, дык яны яшчэ больш ярка будуць паказваць перавагу вялікай дзяржавы капіталістычнага свету над маленькай азіяцкай краінай. Аднак в'етнамскі народ мае такую перавагу над амерыканскімі імперыялістамі, якая аказваецца рашучай. Заключаецца яна ў тым, што народ гэтай краіны ў Індакітаі моцны духам, ён змагаецца за справядлівую справу і таму, здавалася б, у няроўнай барацьбе трымае верх. «Джонсан і яго зграя, — заявіў прэзідэнт ДРВ Хо Шы Мін, — павінны зразумець наступнае: яны могуць перакінуць 500 тысяч, мільён салдат, або нават больш, каб працягваць агрэсіўную вайну ў Паўднёвым В'етнаме. Яны могуць выкарыстаць тысячы самалётаў для інтэнсіўных паветраных налётаў на Паўночны В'етнам. Але яны ніколі не здолеюць зламаць уласцівую гераічнаму в'етнамскаму народу жалезную волю да барацьбы супроць агрэсіі ЗША... Чым больш яны будуць лютаваць, тым больш яны будуць паглыбляць сваё злачынства».

### МАШТАБЫ АГРЭСІІ

Нядаўна міністр абароны ЗША Р. Макнамара падаў некаторыя даныя, якія датычаць маштабаў агрэсіі Пентагона ў В'етнаме. **Колькасць амерыканскіх войск** у Паўднёвым В'етнаме **набліжаецца да 300 тысяч чалавек, а ва ўсёй Паўднёва-Усходняй Азіі перавысіла ўжо 350 тысяч.** Тут сканцэнтравана 1 700 верталётаў. Акрамя таго, дзейнічае тут 1800 амерыканскіх знішчальнікаў і бамбардзіроўшчыкаў. Уздоўж берагоў В'етнама пяспынна курсіруюць караблі ваенна-марскога флоту ЗША. Такім чынам, ужо цяпер у Індакітаі разгорнута і дзейнічае велізарная ваенная машына Злучаных Штатаў. Вынікі ж яе дзеяння зусім не такія, якіх чакалі амерыканскія стратэгі.

### І МІЛЬЯРД...

...долараў будзе каштаваць ЗША месяц вайны ў В'етнаме ў гэтым годзе, — прадбачвае Макнамара. У Вашынгтоне падалі да ведама, што ў бюджэтным годзе, які кончыўся 1 ліпеня, **кошты в'етнамскай вайны склалі 5 мільярдаў 800 мільёнаў долараў,** гэта абазначае, што **перавысілі яны планаваны выдатак ўрада на 1 мільярд 100 мільёнаў долараў. (ак)**

## БССР

### У ГОНАР ПНР

Працоўныя Мінска ўрачыста адзначылі 22-ю гадавіну Польскай Народнай Рэспублікі і 1000-годдзе Польскай дзяржавы. На ўрачыстым сходзе, які адбыўся 21 ліпеня, сабраліся прадстаўнікі прадпрыемстваў, студэнты і запрошаныя госці. На сходзе прысутнічалі кіраўнікі ўрада БССР і члены пасольства ПНР. З дакладам аб 22-й гадавіне ПНР і 1000-годдзю Польскай дзяржавы выступіў наменік старшыні Савета Міністраў БССР У. Г. Каменскі. У заключэнне адбыўся канцэрт майстроў мастацтваў рэспублкі.

### ТРЭЦІ БЕЛАРУСКІ

У Беларусі ўзнік новы аўтамабільны завод, ужо трэці па ліку. Завод створаны на месцы былога Магілёўскага завода пад'ёмна-транспартнага абсталявання. Ён будзе спецыялізавацца ў вырабе грузавых машын.

### ТРАКТАР — МЕДАЛІСТ

На міжнародным Лейпцыгскім кірмашы трактар «МТЗ-52» Мінскага трактарнага завода атрымаў залатую медаль. Трактар можа быць выкарыстаны для апрацоўкі усіх коранеплодаў.

### ПАЛЕСКІ ГРАНІТ

На Палессі, недалёка ад вёскі Міклашэвічы, знойдзены новы будаўнічы матэрыял. Гэта палескі граніт. Ён пераліваецца ўсімі колерамі вясёлкі і хутка будзе ўпрыгожваць шматлікія новабудоўлі Беларусі.

### НОВЫ ІНСТЫТУТ У БРЭСЦЕ

Савет Міністраў БССР прыняў пастанову аб стварэнні Брэсцкага інжынерна-будаўнічага інстытута. У гэтым годзе на І курс будзе прынята 400 студэнтаў. Інстытут будзе рыхтаваць спецыялістаў высокай кваліфікацыі па архітэктуры, прамысловаму і грамадзянскаму будаўніцтву, будове гарадоў, ачышчэнню прыродных і сточных вод. Брэсцкі інжынерна-будаўнічы інстытут будзе 28-ай вышэйшай школай на Беларусі.

### ДЭКАДА ПОЛЬСКАЙ КНІЖКІ

Усесаюзнае аб'яднанне кніжнага гандлю «Міжкніга» і Польскае таварыства кніжнага гандлю «Арс полёна» арганізавалі ў Гродне дэкаду польскай кніжкі. У час выстаўкі польскіх кніжак можна было купіць польскія раманы, аповесці, апавяданні, а таксама навуковую літаратуру і падручнікі польскай мовы.

### ПОЛЬСКІЯ ГОСЦІ Ў БРЭСЦЕ

Хвалюючая сустрэча адбылася на мосце праз Заходні Буг. У Брэст прыехалі ветэраны рэвалюцыйнага руху з Люблінскага ваяводства.

Госці наведалі легендарную Брэсцкую крэпасць, агледзелі экспазіцыю музея абароны крэпасці, тутарылі з яе абаронцамі. Увагу гасцей звярнулі на сябе матэрыялы, якія расказваюць аб супольнай барацьбе польскага і беларускага народаў у гады Вялікай Айчыннай вайны. (яч)

## ПОЛЬШЧА

Апошні тыдзень адзначыўся багатымі і шматважнымі падзеямі. Проста невядома якія сярод іх сёння перадаць чытачам. Усе яны былі падпарадкаваны нашаму вялікаму Юбілею. Напярэдадні Свята Адраджэння пасля абеду ў чацвер 21 ліпеня Сейм ПНР сабраўся на сваю

### УРАЧЫСТУЮ СЕСІЮ

Была яна склікана для адзначэння нашага Вялікага Юбілея — Тысячагоддзя Польскай Дзяржавы. Будынак Сейма і зала пленарных пасяджэнняў былі ўрачыста прыбраны. З прамовай выступіў І сакратар Цэнтральнага Камітэта ПАРП пасол Уладзіслаў Гамулка. Ён зрабіў агляд змаганняў польскага народа за сваю палітычную і гаспадарчую незалежнасць. «На працягу 10-ці стагоддзяў, — гаварыў тав. Ул. Гамулка, — адной з галоўных праблем быту польскага народа з'яўлялася стварэнне дынамічнай гаспадаркі, якая была б асновай для гаспадарчай сілы дзяржавы і дабрабыту яе грамадскасці. Гэтую праблему паспяхова вырашыла толькі Народная Польшча, пераадольваючы вяковую адсталасць нашай краіны».

Сейм закончыў урачыстую сесію, прыняўшы пастанову, у якой між іншым сцвярджаецца, што «поўнасцю падтрымлівае асноўныя думкі і вывады з гісторыі Польшчы, якія прадставіў ў сваёй прамове І сакратар Цэнтральнага Камітэта Польскай Аб'яднанай Рабочай Партыі пасол Уладзіслаў Гамулка».

### ВАЕННЫ ПАРАД ТЫСЯЧАГОДДЗЯ...

...пакінуў па сабе магутнае ўражанне. Не толькі таму, што ў ім, як ніколі дагэтуль, прымалі ўдзел, быццам уваскрэсшыя, прадстаўнікі ваеннага рамясла, пачаўшы аж ад караля Баляслава Хробрага. Ваенны парад перш за ўсё паказаў сілу нашай сучаснай арміі, у распараджэнні якой зараз самыя навейшыя сродкі ваеннай тэхнікі. Пасля ваеннага парада перад ганаровай трыбунай праходзілі многія тысячы прадстаўнікоў моладзі з усёй краіны і спартсмены. Парад сілы, мужнасці і здароўя прымалі кіраўнікі дзяржавы Ул. Гамулка, Ю. Цыранкевіч і маршал М. Спыхальскі, якія выступілі з прамовай.

### ЛІПЕНЬСКІЯ ПАДАРУНКІ

Гэта новапабудаваныя шматлікія аб'екты гаспадарчага і культурнага характару. Адным з іх з'яўляецца металургічны завод у горадзе Коніне (Быдгаскае ваяводства), які пасля 5-ці год будовы пачаў даваць першую прадукцыю алюмінію. Завод працуе на французскай ліцэнцыі. На яго пабудову спатрэбілася паўтара мільярда злотых. Гэтая вялікая сума грошай хутка вернецца, бо завод будзе выпускаць да ста тысяч тон вельмі патрэбнага нам і ў свеце метала.

### ПОМНІК ПАПУ ЯНУ XXIII...

...будзе пабудаваны ў Вроцлаве. З ініцыятывай пабудовы гэтага помніка выступілі каталіцкія дзеячы згуртавання ў Часовым камітэце пабудовы помніка папу Яну XXIII. Дзяржаўныя ўлады адобрылі гэтую ініцыятыву. (вр)

## ВАЯВОДСТВА

### ЛІПЕНЬСКАЕ СВЯТА...

...Беластоцкае ваяводства сустрэла ўрачыстай супольнай сесіяй Ваяводскай, Гарадской і Павятовай рад народовых і Ваяводскага камітэта Фронта адзінства народа. Сесія праходзіла ў беластоцкім тэатры. Адкрыў яе сакратар прапаганды Ваяводскага камітэта ПАРП, тав. В. Мікульскі. Ён асабліва сардэчна прывітаў гасцей з Савецкай Беларусі тав. **Аляксандра Ульяновіча** — сакратара Абкома КПБ у Гродне, тав. **Леаніда Сікору** — працаўніка гэтага ж Абкома і тав. **Таццяну Арду** — героя сацыялістычнай працы, даярку саўгаса Карэлічы. Затым старшыня прэзідыума ВРН Сцяпан Жмійка выступіў з дакладам, у якім правёў грунтоўны агляд нашых гаспадарчых і культурных дасягненняў на працягу 22 гадоў існавання народнай улады.

У мастацкую частку ўрачыстай сесіі ўвайшлі выступленні народнага калектыву песні і танца «Курпе Зелёнэ», які існуе пры Ваяводскім доме культуры.

Вечарам гэтага ж дня прадстаўнікі розных прадпрыемстваў, установ, грамадскіх і палітычных арганізацый зложылі вянкі перад помнікам удзячнасці савецкім воінам — вызваліцелям. З прамовай выступіў наменік старшыні Прэзідыума МРН тав. К. Касьянскі.

### МАЛАДЗЁЖНЫ ЗЛЁТ

Як вядома, у сувязі з 22 гадавінай адраджэння Польшчы ў Варшаве адбыўся агульнадзяржаўны злёт моладзі. З Беласточчыны ў сталіцу паехала 750 дзяўчат і юнакоў. Урачыстасць развітання з імі адбылася на гарадскім стадыёне ў Беластоку.

### УРАЧЫСТЫ САЛЮТ

21 ліпеня вячэрняе неба над Беластокам расцвіло ўсімі колерамі вясёлкі. Праз кожныя некалькі секунд над беластоцкімі небаскробамі распырскваліся букеты шматкаляровых штучных агнёў. Гэта быў салют у гонар Свята Адраджэння.

### У ФАСТАХ...

...закончана пабудова новага цэха гэтага буйнага камбіната тэкстыльнай прамысловасці. У гэтым цэху будзе праводзіцца апошняя стадыя апрацоўкі ўсіх вырабаў ткальняў камбіната. У год цэх зможа выпусціць 86 мільёнаў метраў тканіны. Будзе ён абслугоўваць не толькі свае Фасты, але і шмат другіх тэкстыльных фабрык у нашай краіне.

### СА СПОРТУ

Спартыўныя дзеячы 24 ліпеня наладзілі ў Бельску Падляшскім велагонку на шляху Бельск — Заблудаў. Велагонка праходзіла ў двух групах: для велагоншчыкаў з ІІ і ІІІ ліцэнцыямі і для велагоншчыкаў з IV ліцэнцыяй. У першай групе першым на мэце быў Крупоўскі з ЛьКС у Старасельцах, які 60 км дарогі праехаў за адну гадзіну 35 мінут і 26 секунд. У другой групе пераможцам выйшаў Планоўскі з ЛьКС у Замброве, а трэцім быў Грыгарук з Бельска. (вр)

# Тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія

**NIEDZIELA 31, VII.**
10.00 Dla młodych widzów: „Pozdrowienia dla przyjaciół" (Moskwa); 10.45 Przerwa; 14.00 Program dnia; 14.05 Dla dzieci: Anna Swirszczyńska — „Szu — Hin"; 14.55 „W polu i pod mikroskopem"; 15.20 „Pigułki dla Aurelii" — film fab. pol.; 16.50 Był bój pod Cedynią" — („Ludzie i zdarzenia"); 17.05 „Jadą czerwone wozy" — teleturniej; 18.15 „Portrety" — „Tadeusz Boy-Żeleński"; 18.45 „...i wiersz, i krew..." — montaż muzyczno-poetycki — poezja partyzancka i powstańcza — w przeddzień rocznicy wybuchu Powstania Warszawskiego.; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.00 „Między nami złodziejami" — film fab. CSRS.; 21.25 „Śpiewa Stanisława Baranowska"; 21.45 Niedziela Sportowa.

**PONIEDZIAŁEK 1. VIII.**
17.45 Program dnia; 17.50 Wiadomości dziennika TV; 17.55 Dla młodych widzów: „Zawiszacy, najmłodsze oddziały Szarych Szeregów"; 18.25 „Spacerkiem po kinach"; 18.55 „Syrena podniosła miecz" — program okolicznościowy; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.00 Teatr TV: Tadeusz Gajcy — „Homer i Orchidea"; 21.00 „Eureka"; 21.30 „Kronika Kulturalna"; 21.50 „Na półkach księgarskich"; 22.00 Dziennik TV.

**WTOREK 2. VIII.**

10.00 „Tak blisko nieba" — film fab. CSRS; 11.25 Przerwa; 17.45 Program dnia; 17.50 Wiadomości dzienika TV; 17.55 Dla młodych widzów: „Wakacje i sport"; 18.15 Informator handlowy; 18.25 „21" — teleturniej; 19.55 „Na morskich szlakach"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.00 „Dam ci całą miłość świata" — film estradowy wł.; 20.15 „Tak blisko nieba" — film fab. CSRS; 21.40 Dziennik TV.

**ŚRODA 3. VIII.**

10.00 „Gdyby marzenia były na sprzedaż" — film („Dr Kildare"); 10.50 Przerwa; 17.10 Program dnia; 17.15 Dla dzieci: „Przygody błękitnego rycerzyka" — film; 17.25 PKF; 17.35 Wiadomości dziennika TV; 17.40 Dla młodych widzów: „Lato, woda i my"; 18.05 Dla młodych widzów: „Polowanie na człowieka" — film („Kpt. Tenkesz"); 18.30 „Jan Brzechwa — rok 1962"; 18.45 Wszechnica TV: „Wieczory w Łazienkach"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.00 TV Kurier Warszawski; 20.15 „Gdyby marzenia były na sprzedaż" — film („Dr Kildare"); 21.05 „Światowid"; 21.30 Recital taneczny Stanisława Szymańskiego; 21.55 Dziennik TV.

**CZWARTEK 4. VIII.**

17.45 Program dnia; 17.50 Wiadomości dzienika TV; 17.55 „Życie w starożytnym Rzymie" — film cz. II; 18.25 „Albourah" — film („Dzień pokoju"); 18.50 „Czwarta zmiana"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.00 „Spotkanie z Irlandią" — film; 20.25 Teatr Sensacji: Andrzej Zbych — „Stawka większa niż życie" odc. IV — „E-19 działa"; 21.20 „Pod znakiem jakości"; 21.45 Dziennik TV.

**PIĄTEK 5. VIII.**

17.50 Program dnia; 17.55 Wiadomości dziennika TV; 18.00 „Azymut" — młodz. mag. wojskowy; 18.25 „Wyjęte spod prawa" — film („Świat, który nie może zginąć"); 18.50 Wszechnica TV: „Turniej krasomówczy"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.00 „Z kamedą po kraju"; 20.15 „Nowela szachowa" — film fab. wg. noweli St. Zweiga; 21.45 Dziennik TV.

**SOBOTA 6. VIII.**

10.00 „Powrót Franka James'a" — film fab. USA; 11.30 Przerwa 16.45 Program dnia; 16.50 Program tygodnia; 17.05 „Medale i detale"; 17.25 „Ciotki na rowerach" — film fab. radz.; 18.40 „Miasto, które powstało dwa razy" — film CSRS; 18.50 „Warszawa, ja i Ty"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Monitor; 20.00 „Pięty Achillesa" — film CSRS; 20.30 „Pegaz" — mag. kult.; 21.05 „Letni dzień w Ostrawie" — program rozrywkowy; 21.55 Dziennik TV; 22.10 Wiadomości sportowe; 22.20 „Powrót Franka James'a" — film fab. USA.



У Замэрсускім УР-ы на занятках па праграме пачатковай школы.

# УНІВЕРСІТЭТ ДЛЯ ЎСІХ

Аналіз асветніцкай дзейнасці маладзёжных арганізацый (маю на ўвазе ЗМВ і асабліва ЗМС) паказвае на прыгожы, моцны і доўгі шэраг людзей, якія веды свае, умеласць самаадукацыі, любоў да кніжкі знайшлі і здабылі на розных курсах і на Універсітэтах маладзёжных арганізацый. ЗМВ мае Людовыя універсітэты, ЗМС — Рабочыя універсітэты, у скарачэнні УР-ы.

Маладыя і з энергіяй калегі з Ваяводскага праўлення ЗМС схапілі адзін цёплы дзень і ў разгары лета расказалі журналістам на мілай прэс-канферэнцыі аб здабычах і планах.

Як каму, а мне спадабалася, што ЗМС так вялікую ўвагу аддае рабочай асвеце. Каб усведаміць сабе яе важнасць, толькі прыпомнім, што цяперашнія гарады з Беластокам на чале выраслі і растуць у вялікай меры коштам вёскі. Скардзімся, што моладзь уцякае з вёскі ў горад. Але гэта правільны і непазбежны працэс. У будучым будзем усе гарадскімі. Важнае тут іншае. Тое, што моладзь, якая прыходзіць з вёскі, знаходзіць у горадзе апекуна і магчымасць вучобы. Яна не блытаецца ў пошуках хлеба і грошай, як нічыя. Рабочы ўніверсітэт навучыць яе ці яго ўмеласці і нават пашукае працы. Такую палітыку і практыку вядзе Беластоцкі ЗМС. Таму дарогу ў арганізацыю павінен ведаць кожны.

— Яна — арганізацыя ЗМС-оўская ў будучым будзе арганізацыяй людзей адукаваных, — з гонарам кажуць калегі --кіраўнікі.

Зараз яшчэ некалькі фактаў канкрэтных. У ваяводстве маем 6 Рабочых універсітэтаў: найбольшы, вельмі ўсебаковы, з мноствам спецыялізацый (налічыла іх 15) у самым Беластоку, далей у Ломжы, Замброве — існуе 5 год, у Гайнаўцы, Сувалках, Элку і ў гэтым годзе паўстае ў Аўгустове.

Рабочы ўніверсітэт у Беластоку існуе ад 1958 года і быў трэцім, які паўстаў у краіне. (Цяпер іх маецца 150).

Арганізуе ён падрыхтоўчыя курсы для кандыдатаў у вышэйшыя школы: Медыцынскую акадэмію, Вышэйшую Інжынерскую школу, Варшаўскі універсітэт, СГПіС. Беластоцкі УР сарганізаваў у Беластоку кансультацыйны пункт Варшаўскай СГПіС (Галоўнай школы планавання і статыстыкі), які, гэты пункт, можа вырасці ў вышэйшую эканамічную школу ў Беластоку.

Дасягненні беластоцкага ЗМС і яго УР-у ляглі ў аснову сёлеташняга ліпеньскага краёвага семінара **ўсіх 150** дырэктараў УР-аў у Польшчы. Семінар адбываўся ў нас. Гэта як прызнанне заслуг, як прыклад для наследавання. Рабочыя універсітэты адкрываюць дарогу да асветы і навукі — аб гэтым таксама раю памятаць. Ёсць нямала прыкладаў, што малады чалавек пачынаў ад курсаў падставовай школы ў УР-ы, а цяпер вучыцца завочна на сапраўдным універсітэце, або на сапраўднага інжынера.

**Вера Леўчук**

# ДЗЕ ВАЛ?!

Вялікі конкурс па лугаводству адбываецца. Прымаюць у ім удзел члены водных суполак і з тэрыторыі грамадскай рады Юшкаў Груд у Беластоцкім павеце.

Ды наогул у Беластоцкім павеце гэты конкурс праходзіць бадай што найлепш. За гэта Павятоваму інспектарату водных меліярацый прызнана ўзнагароду ў выглядзе навюткай легкавой машыны «Варшава», якой... не атрымалі! А Юшкаўская водная суполка «Развой» у мінулым годзе таксама здабыла вядучае месца ў гэтым пастаянным конкурсе. Яе старшыня Мікалай Багнюк цешыўся ўдачаю. Гэта суполка атрымала добрыя ўзнагароды — дзве грабільні і два камплекты конных валаў — толькі ні гэтых грабілак, ні валаў ніхто яшчэ ў вочы не бачыў. Проста, не далі.

— А ці дадуць? — пытаюць людзі. — Дзе вал, нам патрэбны гэтыя валы...

Падсумаванне конкурсу за мінулы год адбылося ўжо паўгода таму назад. Тады прызнана гэтыя ўзнагароды, якіх ніхто не дастаў. Аказаліся яны папяровымі ўзнагародамі.

Тое, што павятовыя начальнікі не пабачылі яшчэ падоранай на паперы «Варшавы», гэта паўбяды. «Варшаваю» поля араць ці сена касіць не будзеш. Але тое, што суполцы «Развой» праз столькі часу не даслана заслужаных ёю сельскагаспадарчых машын — гэта ўжо брыдка, фэ, панове арганізатары конкурсу!

Хочам завесці рацыянальную гаспадарку на бяскрайніх абшарах лугоў панад Нарваю, мабілізуем людзей рознымі конкурсамі і... не датрымоўваем слова! Калі так робіцца, дык каму ж тут верыць?

У гэтай справе не вельмі вядома, каго і пытаць? Кожны звальвае віну на іншага... У павеце тлумачацца, што іх таксама пакрыўдзілі, бо не далі «Варшавы»...

Конкурс адбываецца, узнагарод невядома дзе шукаць.

(ся)

У час аднаго з многіх курсаў крою і шыцця ў Беластоку.



На віклінярскім курсе ў Шчучыне, дзе **УР** для абсальвентаў курсу арганізаваў спулдзельню, у якой працуе 40 асоб. Яе арцыцікавыя вырабы ўсе сплываюць заграніцу.

# ЖАМЧУ ЖЫВЁЛА

Амаль кожны гаспадар ведае, што Бельшчына гэта сельскагаспадарчы павет. Але сельская гаспадарка мае свае галіны — спецыялізацыю. Іменна перспектыва бельскай гаспадаркі — гэта **жывёлагадоўля.** Такое сцверджанне, перад усім, абгрунтоўваюць умовы. 30% арэалу зямлі — гэта сенажаці, сенажаці высакаякасныя, загаспадараваныя. Пры такіх умовах можна павысіць колькасць быдла на 60—70 штук на кожныя 100 гектараў зямлі, толькі пры невялікім павелічэнні корму, які вырошчваецца на палях. Але каб гэта асягнуць, патрэбна адпаведная праца і намаганні як з боку саміх гаспадароў, так і ўлад.

**ПЛАНЫ**

У Бельску апрацавана ў 1964 годзе павятовую праграму развіцця жывёлагадоўлі ў 1965—1970 гадах. І так, прадбачвае яна, што пагалоўе быдла мае ўзрасце да 60 500 штук у 1970 г. (у 1963 — 50 731). Гэта абазначае, што на 100 гектараў павінна быць 53,2 штукі, калі ў 1963 г. прыпадала 44,5 штук на 100 гектараў. Пагалоўе свіней мае павялічыцца з 52,6 шт. у 1963 г. да 74 у 1970 г. на кожнае 100 гектараў. Не плануецца павелічэння колькасці авечак, якіх налічваецца 20,1 штукі на 100 гектараў, але звернецца вялікую ўвагу на паляпшэнне якасці. Прадукцыя «кішонак» асягне 40 тысяч тон (у 1963 г. 9,5 тыс.). Дзеля паляпшэння якасці быдла да канца пяцігодкі плануецца ахапіць штучным апладненнем цэлы павет.

**СПЕЦЫФІКА**

Безумоўна, нельга аднолькава гаварыць пра цэлы павет, калі разыходзіцца пра

# СЫМОН БУДНЫ

**У гэтым годзе адзначаем 370 гадавіну з дня смерці вядомага беларускага грамадскага дзеяча, філосафа, гуманіста і асветніка Сымона Буднага. У яго асобе беларуская культура мае аднаго з найбольш выдатных сваіх прадстаўнікоў. Ён — адзін з заснавальнікаў беларускага рацыяналізма. Яго жыццё — гэта летапіс палымянай барацьбы, бясстрашнага грамадскага подзвігу, супрацьстаўлення здаровага розуму — чорнай рэакцыі таго часу.**

**Дзейнасць Сымона Буднага цесна звязана таксама з жыццём польскай дзяржавы, з рэфарматарскімі павевамі гэтай эпохі. Ён ідэолаг рэфармацый на землях Беларусі, Польшчы і Літвы. Выдатны эрудыт, чалавек вялікага кругагляду, блiскучы знаўца шматлікіх моваў, ён, зразумела, не спадабаўся ні афіцыяльным прадстаўнікам каталіцкай і праваслаўнай царквы, ні прыдворным вяльможам.**

**З Кракавам быў звязаны Георгій Скарына, — з Кракавам звязаны і юнацкія гады Сымона Буднага. З Кракавам звязн і момант, магчыма, рашаючы ў жыцці Буднага. Яму прыйшлося бачыць спаленне на кракаўскім рынку жанчыны, якая звар'яцела ад жаху, — абвінавачанай духавенствам у тым, што яна «ведзьма». Хто ведае, — магчыма з таго часу ён і ўспыхнуў свяшчэннай нянавісцю да ўсяго таго, што было злом, парваў сувязі з афіцыяльнай царквою і далучыўся да прыхільнікаў рэфармацыі.**

**Будучы шырока адукаваным чалавекам свайго часу, Будны лёгка гаварыў і пісаў не толькі па-беларуску і па-польску, але выдатна валодаў лацінскай і грэчаскай мовамі, ведаў стараяўрэйскую мову, а з еўрапейскіх: англійскую, французскую і нямецкую. Свае трактаты ён лёгка пісаў на ўсіх гэтых мовах. Яго творы на лацінскай і стараяўрэйскай мовах здзіўляюць глыбокім веданнем спецыфікі гэтых моў, іх граматычных і стылёвых асаблівасцей.**

**Нас менш цікавяць яго творы тэалагічнага характару, напісаныя пераважна на польскай, чэшскай або на лацінскай мовах. Гэта як бы самастойны раздзел яго біяграфіі, таксама вельмі важны, але менш за ўсё звязаны з яго беларускай асветнай дзейнасцю, пра якую мы хочам гаварыць у першую чаргу.**

**Жыццю Сымона Буднага прысвечана нямала доследаў, навуковых прац, пасобных кніжак і брашур. Большасць з іх, — у прыватнасці працы польскіх аўтараў, — прысвечаны Дуднаму — філасафу, рэфарматару рэлігіі, чалавеку, які адмаўляў боскасць Хрыста. Перайшоўшы на пазіцыі антытрынітарыяў, парваўшы з кальвінізмам, Сымон Будны нейкі час выступаў як прапаведнік свайго ўласнага вучэння, пранікнутага крайнім рацыяналізмам.**

**У даследванні В. І. Пліса «Сымон Будны і яго літаратурная дзейнасць у Заходняй Русі», апублікаваным у 1914 годзе, шмат месца прысвечана сувязям Буднага з арыанамі, з так званымі «Братамі польскімі». Яго крайнія погляды, непрыймальныя нават для шматлікіх рэфарматарскіх прапаведнікаў, выклікалі асуджэнне яго як «бязбожніка» і «ерэтыка» на саборы 1582 года, які адбыўся ў Лукловіцах.**

**З іншых прац адзначым працу Г. Мерынга, выдадзеную ў Кракаве годам раней ад даследвання В. І. Пліса. Г. Мерынг шмат месца прысвячае Буднаму — палемісту, выдатнаму знаўцу Біблii.**

**Трэба адзначыць, што ў 1946 годзе, на выстаўцы кніг Сымона Буднага, арганізаванай у Празе, пры падтрымцы Славянскага гістарычнага фонду, было экспанавана многа напісаных ім кніжак, а таксама яго кнігі надрукаваныя**



КАТИХИЗІСЪ

ТО ЕСТЬ,

НАУКА СТАРОДАВНАЯ ХРІСТІАНЬСКАЯ Ѡ СВЕТОГО ПИСМА, ДЛЯ ПРОСТЫХЪ ЛЮДЕЙ ЯЗЫКА РУСКОГО, ВЪ ПЫТАНІЯХЪ И ѠТКАЗЕХЪ СОБРАНА.

Ѡ ПЕРВАГО СВЕТОГО АПОСТОЛА ПЕТРА ПОСЛАНІЯ ЗАЧАЛО

Рэпрадукцыя загаловачных і тытульных (выходных) аркушаў кніг выдадзеных і напісаных Сымонам Будным.



Жніво на Сакольшчыне. Фота Ул. Паўлючук

# ЖЫНА ГАДОЎЛІ

жывёлагадоўлю. Ёсць раёны, якія маюць сваю традыцыю ў гэтай галіне і вялікую колькасць быдла на 100 гектараў, а ёсць такія, дзе такіх умоў няма. Дзеля гэтага павет падзелены на 4 раёны. Раён II-гі (ГРН Страбля, Храбалы, Рыбалы, Пасынкі і Галады) будзе настаўлены на таварную прадукцыю пры аднaчасовых намаганнях на павелічэнне колькасці і якасці жывёлы. Аднак найбольшую ўвагу звернецца на IV-ты раён (ГРН Снежкі, Нурэц і Рыгораўцы) таму, што іменна ў гэтым раёне ёсць найбольшая колькасць загаспадараваных сенажацяў і аднaчасова найменшая колькасць быдла.

**ДВА ГАДЫ РЭАЛІЗАЦЫІ...**

...праграмы паказалі на слушнасць прадпасылак. У 1965 годзе колькасць быдла ўзрасла на 2 464 штукі, калі ў ваяводстве адзначалася змяншэнне. Свіней узрасло на 10 000 штук, а авечак, і то дабраякасных, на 4 175 штук. Планавалася пабудаваць у 1965 г. 500 сіласаў, а пабудавана 1051. Трэба дадаць, што сталася гэта дзякуючы павелічэнню крэдытаў Прэзідыумам ВРН. Упершыню ў 1965 г. выканана план штучнага апладнення быдла. Гаспадары многіх вёсак самі дамагаюцца адкрыць у іх «інсымінацыйныя пункты». У 1965 годзе адкрыта такі пункт у Леўках, а ў гэтым годзе ў Кашалях, Шчытах, Галадах і Секлюках. Зроблена гэта выключна на жаданне саміх гаспадароў, хаця план гэтага не прадбачваў.

Пазітыўныя вынікі ў жывёлагадоўлі далі аб сабе знаць і ў скупцы. **Малака** скуплена ў 1965 г. амаль на **3 мільёны** літраў больш чым планавана, г. зн. 27 125 тысяч літраў. **Свіней** скуплена на **290 тон** больш чым прадбачваў план, а ў параўнанні да 1964 года на 560 тон больш. Пры гэтым нельга не адзначыць, што паменшылася вага паасобных кормнікаў. А гэта вельмі карысная з'ява, таму што праз гэта гаспадары ашчаджаюць корм.

**НЕДАХОПЫ**

Перад усім назіраецца іх у IV-тым раёне. Гаспадары Снежак і аколіц надалей традыцыйна займаюцца гадоўляй свіней. У сувязі з добра загаспадараванымі сенажацямі і малой колькасцю быдла ёсць тут вялікія надвыжкі сена, з якім гаспадары не ведаюць, што рабіць. А ГС-ы ў гэтым годзе праўдападобна не будуць яго скупоўваць. Назіраецца, што многія не даюць на загаспадараваныя сенажаці ўгнаення, а гэта пагражае спусташэннем глебы, якую ізноў трэба будзе загаспадароўваць.

Гаспадары скардзяцца, і слушна, што мяшальня корму пры ПЗГС у Бельску выпускае недабраякасную кармавую сумесь. Гэта было прычынай, што гаспадары перасталі яе купляць. Барацьба з непрызнанымі племяннымі жарабцамі і бугаямі — гэта таксама адна з асноўных спраў. А трэба сказаць, што апрача «службы рольнай» ніхто гэтым не займаецца. Ёсць нават выпадкі, калі некаторыя высокапастаўленыя асобы бароняць уласнікаў нелегальных «расплоднікаў». Напрыклад, вельмі «мужна» бараніў аднаго са склепoвых, які меў няпрызнанага племяннога жарабца, кіраўнік гаспадарчага аддзела ПЗГС Алексюк, а намеснік прэзаса ПЗГС спакойна апрабаваў гэткую мужнасць. Дзіўна, але працаўніку аддзела рольніцтва, які хацеў вылегітымаваць гаспадара, не дапамог нават дыжурны міліцыянер.

Усё ж здаецца, што нягледзячы на недахопы, Бельшчына хутка дасягне сваёй мэты і станецца сапраўды жамчужынай жывёлагадоўлі.

**Аляксей Карпюк**

Селская гаспадарка без таямніц (4)

# Хімія на палях

Гаворачы аб угнаенні, пераважна маем на думцы азот, фосфар, калій і вапну. Дзесяткі год не бралася пад увагу ў даследваннях іншых элементаў, такіх як сера, магній, марганец, медзь, цынк і шмат іншых. Толькі доследы па вырошчванню раслін на штучнай глебе навялі вучоных на след. Аказалася, што яны таксама неабходны для нармальнага развіцця раслін, хоць і ў невялікіх колькасцях. Праведзеная нядаўна праверка паказала, што вельмі мала сялян прымяняе мікраўгнаенні, напр. бор. Проста няма дзе іх купіць. Нічога не гаворыцца на гэтую тэму і не робіцца. А справа даволі важная.

Для параўнання падаем колькасць бору ў некаторых раслінах. Люцэрна на сена мае ў 1 кг сухой масы 68 міліграмаў бору, сланечнік (бадылі) — 72 мг, цукровыя буракі 17 мг у карэннях і 35 мг у лісцях, пшаніца — 2 мг у зерні, і 4 мг у саломе (падобна і іншае збожжа). Як бачым, збожжа мала бярэ з глебы гэтых элементаў, бо каля 15—20 грамаў бору з гектара. А цукровыя буракі пры ўраджаі 300 ц з гектара — 200 гр. Найбольшыя патрэбы на бор — 500 гр. Гэта значыць, што порцыя боравых угнаенняў — 1 кг (у чыстым рэчыве) павінна быць дастатковай. Борнай кіслаты трэба даць 3—4 кг, а бораксу 5—10 кг. У беластоцкіх умовах звяртаецца вялікая ўвага на ўгнаенне меддзю. Прычынай гэтага з'яўляюцца тарфяныя глебы, якія асабліва патрабуюць гэтага рэчыва. Доследы над гэтым праводзіліся на сельскагаспадарчай даследчай станцыі ў Бебжы і пацвердзілі такую гіпотэзу. Шмат патрабуюць медзі цукровыя буракі і матыльковыя. Пераважна даем порцыі 20—25 кг сернакіслай медзі на гектар. Цукровыя буракі выцягваюць 50 грамаў медзі з гектара, матыльковыя 15—20 грамаў, збожжавыя — 10—15 гр. Угнойваем глебу раз на 4 гады. Прымяняць мікраўгнаенні цяжкавата ў сувязі з тым, што не заўсёды іх можна купіць, і з малымі колькасцямі высеву. Таму гэтыя ўгнаенні пераважна змешваюцца з іншымі. Некаторыя віды ўгнаенняў маюць у сваім складзе мікраэлементы, напр., бораксавы суперфасфат. Могуць быць таксама калійныя солі з дадаткам гэтага рэчыва.

У апошні час прапануецца пагалоўная падкормка раслін мікраўгнаеннямі. З гэтай мэтай растваpаем іх у вадзе і паліваем поле. Часам перад высевам замочваюць насенне ў растворы бора. У нашай краіне, асабліва на Беласточчыне, гэта яшчэ новыя справы. Яны знаходзяцца яшчэ ў фазе эксперыментаў. Але гэта зусім не значыць, што трэба чакаць на вынікі. Сусветная навука даказала, што мікраўгнаенні карысна ўздзейнічаюць на расліны. Таму варта гэтым справам прысвяціць больш увагі. Гэта адносіцца асабліва да раёнаў Бранска, дзе цукровыя буракі займаюць вялікую плошчу і прымяненне бору магло б даць вялікую карысць. Нам здаецца, што гэтыя справы цяпер робяцца такімі актуальнымі, як яшчэ ніколі не былі. Вядома ж, што ў гэтай пяцігодцы мы павінны павялічыць у 3 разы выкарыстоўванне мінеральных угнаенняў. Нам трэба значна больш, каб усіх задаволіць. Павелічэнне прыдзелаў будзе залежыць ад дасягнутага намі ўзроўню гаспадаравання ўгнаеннямі.

**Інж. М. Сухажэбрскі**

# МАЛАЦІЛЬНЫ КУРС

Нядаўна Павятовае праўленне сельскагаспадарчых гурткоў (ПЗКР) у Гайнаўцы сарганізавала малацільны курс для прадстаўнікоў сельскагаспадарчых гурткоў.

Падрыхтоўка адбывалася ў вёсцы Дубіны, куды прыбыло звыш 60 асоб. Выкладчыкам на курсе быў працаўнік «Закладу энергетыкі» ў Бельску Падляшскім. Вучыў ён, як абыходзіцца з электрычнымі рухавікамі і як ратаваць чалавека, якога паразіла электрычным токам. 18 чэрвеня адбыліся экзамены.

**«Ярош»**
Белкі

# ІВАН КАРПАЧ

Іван Карпач, жыхар Піражкоў, што на Сакольшчыне, цікавы чалавек. Яго часта можна ўбачыць са стрэльбай у руках, калі ходзіць па палях з двума расавымі сабакамі. Страляе ён сабак-валацуг, якія ходзяць і з'ядаюць маладыя птушкі ў гнёздах і зайцаў. Асабліва намагаецца ён нішчыць шулякоў. Зімою Іван Карпач дакармлівае птушак, зайцаў, козы. З'яўляецца ён «ахраннікам прыроды», свае абавязкі выконвае добра і карыстаецца вялікай пашанай у лавецкім гуртку.

Іван Карпач мае і іншыя грамадскія функцыі. Асабліва многа часу прысвячае працы ў радзе надзорчай ГС-у ў Крынках. (мх)

**для беларускага народа.**

**Найбольш важным перыядам у жыцці Сымона Буднага былі гады, калі ён, на запрашэнне Мікалая Радзівіла, празванага народам «чорным», прыняў месца пастара ў Клецку, дзе ім была заснавана свабодная рэфарматарская абшчына. Тут Будны і заняўся сваімі працамі, у прыватнасці перакладам Біблii на польскую мову, катэхізісам на беларускай мове і іншымі. Шмат кніг напісаных Будным былі перaказаны на спаленне і не дайшлі да нашых дзён.**

**У «Календары абшчынным» чэшскі вучоны Б. Гарашок прыводзіць як дату смерці Буднага дзень 22 сакавіка 1596 года. Гэта адзінае пасведчанне, якое дайшло да нашых дзён, яно не падмацавана, на жаль, ніякімі дакументамі і таму прынята лічыць верагодным толькі год смерці, але ні ў якім разе неканкрэтны дзень і месяц.**

**Будны імкнуўся да таго, каб «здаўна слоўная славенская мова «беларуская» не выціскалася «дзяржаўнай мовай панскай». У прадмове да выдадзенай ім на польскай мове Біблii ён пісаў — «глупствам з'яўляецца пагарджаць мовай аднoй краіны і падносіць пад нябёсы мову другой».**

**Адной з навейшых прац, прысвечаных Буднаму, з'яўляецца кніга Я. І. Парэцкага «Сымон Будны — перадавы беларускі мысліцель шаснаццатага стагоддзя», выдадзена ў Мінску ў 1961 годзе.**

**ПАНЦЕЛЯЙМОН ЮР'ЕЎ**

# АД СУПРАСЛІ ПА БУГ

**(Працяг са стар. 1)**

Маем ужо за сабою тры дні падарожжа і чатырыста кіламетраў дарогі. На небасхіле зялёныя смугі вёсак з бліщчастымі жывацянятамі царкоўных купалаў. Легендарны Драгічын над Бугам, сталіца колішніх рускіх князёў, застаўся за намі, але яшчэ доўга бачылі вежы яго касцёлаў і царквы, што стаяць на незвычайна маляўнічых узвышшах па-над шырокаразлівістым Бугам, аб якім на Сакольшчыне кружаць адно далёкія легенды, створаныя людзьмі, пабыўшымі ў войску і пабачыўшымі Буг. Едзем наўпрасткі ў кірунку Дзядкавіц, шырокім гасцінцам. Палі вельмі падобныя да нашых, здаецца, вось-вось убачым свайго бацьку ў полі... Сустрэчныя вёскі: Сыткі, Сківы, Банькі, Каранёўка, а ў вёсках каляровыя дзяўчаты ля брамак ды на лавах пад кустамі бэзу. Усведамляем сабе, што сёння нядзеля, святочны дзень. У гэтых вёсках яшчэ разумеюць па-беларуску, але не гавораць. Тут пачынаецца падляшска-мазурскі абшар, адсюль пачынаецца этнічная Польшча.

Да Беластока выбралі мы ўжо простую і хуткую дарогу.

**С. Яновіч**
Фота аўтара



**На здымку: старадаўная царква ў мястэчку Нарва. Пабудавана яна недзе на пачатку мінулага стагоддзя, знаходзіцца пад аховаю Міністэрства культуры.**

 



**ПАРА ГРЭЕ**

**На здымку дыспазітарская цеплаэлектрастанцыя ў Плоцкай петрахіміі. Пара з фабрыкі «ловіцца», каб абаграваць дамы. Плоцкая цеплаэлектрастанцыя будзе мець моц 300 мегаватаў (MW) і дасць паўтары тоны пары ў гадзіну. Трубамі паплыве яна далей. (вл)**

Цуды нашага веку

# ЯК КОРМІЦЦА РАСЛІНА

Прыходзіць вясна. Селянін выходзіць у поле. Прыворвае гной, сее штучныя ўгнаенні, стараецца, каб расліна мела што есці. Вясну змяняе лета, і ўдосталь падкормленая расліна, калі добра падагрэе сонца, пачынае шпарка расці.

Як усё гэта адбываецца? Як корміцца расліна?

Губы, рот і зубы расліны — гэта яе карэнні. Але карэнні не ў сілах «паглынаць» і гною, і штучных угнаенняў у такім выглядзе, у якім мы прывыклі бачыць гэтыя прадукты. Проста яны не праходзяць праз «горла» расліны, як нам, людзям не прыдатна да яды, скажам, зямля.

Над высвятленнем гэтых загадак шмат гадоў працаваў грузінскі вучоны Чкуаселі. Яму ўдалося высніць, што карэнні раслін рыхтуюць сабе своеасаблівую страву з тых элементаў, якія знаходзяць у зямлі і якія дастаўляе зямлі чалавек. Карэнні ў свае наваколле выдзяляюць спецыяльныя актыўныя рэчывы, так званыя **ферменты.** Яны ўваходзяць у хімічную рэакцыю з прадуктамі, якія знаходзяцца ў зямлі, і ў выніку атрымоўваецца лёгкадаступныя для расліны кармавыя рэчывы. Вынікае тады з гэтага, што карэнні з'яўляюцца таксама своеасаблівым страўнікам, які рыхтуе ежу для расліны.

Вучонаму Чкуаселі ўдалося правесці хімічны аналіз гэтых ферментаў і на яго аснове апрацаваць спосабы актыўнай дапамогі карэнням у іх карпатлівай рабоце. Можна спадзявацца, што выяўленне гэтай шмат важнай тайны раслін дазволіць яшчэ болей кшталтаваць ураджай.

**Нейтрына**





**ФЯТЫ Ў СССР**

**Як вядома, італьянцы збудуюць у СССР цэлую фабрыку фятаў, якая будзе даваць у год 600 тысяч штук аўтамашын. Пасля 1970 года прадукцыя ўзрасце да 800 тысяч штук у год. Зараз СССР выпускае 200 тысяч аўтамашын у год.**
**На здымку: мадэль новага фята-124.**

# Без вады няма жыцця

Без вады не можа існаваць цывілізацыя, але цывілізацыя страшэнна знішчае ваду.

I так, мінеральнай сыравінай нумар адзін на свеце сталася вада. Калісьці людзі лічылі, што запасы вады на свеце неабмежаваныя. Сёння цэлы свет ведае, што такое паняцце з'яўляецца памылкаю. У Лейпцыгу на з'ездзе аховы прыроды сцверджана, напрыклад, што ў вярхоўях Эльбы засталося толькі 5 працэнтаў вады прыдатнай да піцця, 55 працэнтаў вады — прыдатнай для прамысловасці пасля адпаведнай ачысткі і 40 працэнтаў вады — гэта канцэнтраваны сцёк. Не лепшая сітуацыя на іншай нямецкай рацэ Рэйн. У аколіцах Бон за дзень праплывае 9 мільёнаў кубічных метраў сцёкаў — у тым ліку 25 тысяч тон солі, 5 тысяч кубічных метраў шламу і 25 тон фенолу.

А як маецца справа з запасамі і запатрабаваннем вады ў Польшчы? Спецыялісты ведаюць: у Польшчы нарастае востры дэфіцыт на ваду. Падлічана, што ў 1990 годзе праз польскія рэкі праплыве не больш чым 30 мільярдаў кубічных метраў вады. З таго для прамысловасці спатрэбіцца 20 мільярдаў кубічных метраў вады, для сельскай гаспадаркі — 8 мільярдаў. Для патрэб насельніцтва застаецца няшмат вады.

Як відаць, найбольшым спажыўцом вады з'яўляецца прамысловасць. Каб лепей зразумець, як вялікую смагу на ваду мае прамысловасць, можна паінфармаваць, што: для прадукцыі аднаго літра бензіну патрэбна 10 літраў вады; для прадукцыі аднаго кілаграма паперы — 100 літраў вады; для прадукцыі аднаго кілаграма ваўнянай тканіны патрэбна 600 літраў вады, а для прадукцыі адной тоны сталі патрэбна не менш чым 20 000 літраў вады.

Цывілізацыя патрабуе, перад усім, вады. Мартэнаўская печ «выпівае» за гадзіну 1 300 кубічных метраў вады. Каб выпусціць адзін літр піва патрэбна 3 літры вады. Сярэдняя фабрыка патрабуе столькі вады, колькі стотысячны горад, а вялікі камбінат патрапіць «выпіць» не менш вады, чым шматмільёнавы горад.

Цяпер пабачым, як фармуецца запатрабаванне на ваду ў галіне сельскай гаспадаркі? Каб дабіцца добрага сена, скажам, 100 цэнтнераў з аднаго гектара, трэба даставіць на працягу паўгода каля 8 000 кубічных метраў вады на адзін гектар. Лепшы ўраджай, і наогул ураджай залежыць ад вады перад усім! Калі яе за мала або — хай Бог сцеражэ — няма зусім, тады бывае страшэнная суша, пагібель усяго на полі. Трэба заўважыць, што гной іграе тут ужо другарадную ралю: нічога не дасць добрае ўгнаенне без адпаведнай колькасці вады ў глебе. Гэту праўду ведаем, але не заўсёды моцна ўсведамляем сабе.

Цяпер лета і заняпад водаў у рэках. Вядома, больш сухая пара года. У прамысловых цэнтрах Польшчы, от. хаця бы рэчка Белка ў Беластоку ў гэты час ператвараецца ў каламазны сцёк — фабрычны сцёк, які атручвае тыя рэкі, куды ўліваецца яна.

Воды ў цяперашніх рэках дзеляцца на пяць класаў. Першы клас вады — гэта такі, дзе жывуць рыбы добрых гатункаў (стронгі). Гэта крыштальна чыстыя воды. Другі клас водаў — гэта такія воды, дзе — праўда, таксама жывуць сякія-такія рыбы — але перад усім гэтыя воды прыдатныя для камунальных патрэб, можна купацца, можна выкарыстоўваць іх для патрэб жыхароў гарадоў. Воды прыдатныя для вадаправодаў. Да трэцяга класа належаць воды прыдатныя толькі для сельскай гаспадаркі — у першую чаргу ўсялякія каналы і т. п. Да чацвёртага класа належаць воды, якія можна выкарыстаць для патрэб прамысловасці. I пяты клас — гэта ўсялякія фабрычныя сцёкі, на падабенства нашай беластоцкай Белкі. Спецыялісты падлічылі, што воды для камунальных патрэб знаходзяцца толькі ў пятай частцы даўжыні рэк. Даўжыня найважнейшых польскіх рэк — 4 961 кіламетраў, у тым ліку 3 031 кіламетраў рэк маюць моцна атручаныя воды. Гэтыя даныя сведчаць аб наспяванні балючай праблемы чыстай вады, без якой няма нічога на свеце. (ся)

# „ПАТРЫЯТЫЧНЫ" АБАВЯЗАК

У Паўднёваафрыканскай Рэспубліцы адбываецца асаблівая кампанія. Менавіта, заклікаецца людзей белай расы, каб павялічылі на чацвёртую частку агульны натуральны прырост у гэтай расісцкай рэспубліцы. Лозунг: «падаруем нашай прыгожай краіне новае белае дзіця ў гонар пятай гадавіны апавяшчэння рэспублікі»! Усе белыя сем'і заклікаюць павялічыць лік сваіх дзяцей. Адна з бальніц у Ёганесбургу звальняе ад аплат тых матак, якія спадзяюцца чацвёртага дзіцяці. Гэтая бальніца заклікае другія бальніцы пайсці за яе ахвярным прыкладам.

Справа ў тым, што ў Паўднёваафрыканскай Рэспубліцы ўлада належыць да белых людзей, якія пануюць над пяць разоў большым негрыцянскім насельніцтвам. Уціск неграў тут настолькі дзікі, што пагражае крывавая рэвалюцыя чорных супраць белых. (а-ся)

# ПУШЧАНСКАЯ АДЫСЕЯ

**Рабіць няма чаго, і ў першыя суткі пасля злучэння высыпаем мы на страшаўскую вуліцу. Ля Шымановага хутара былыя паліцаі пад канвоем рыхтуюць лагер для ваеннапалонных. На захад імчаць касякі штурмавікоў, баі ўжо так далёка, што не чуваць выбухаў ад іх смертаноснага ладунку. Па тракту ўздымаюць пыл танкі, прыкрытыя брызентам «кацюшы», цягнуцца сотні гарматных ствалоў. Побач са мной у маўклівым захапленні стаіць некалькі партызан. Стаім і думаем, што ў параўнанні з гэтай сілай мы са сваімі вінтовачкамі і кулямёцікамі выглядаем вартымі жалю.**

**— Галё, хлопча! — кідае мне маладзенькі лейтэнанцік з юркага «віліса». — Хадзі сюды, хадзі!**

**Шафёр раптоўна спыняе машыну і юнакоў-афіцэраў у адкрытым кузаве здорава кідае ўпярод.**

**Падыходжу да таго, каторы клікаў.**

**— Пакажы, пакажы, якой маркі?! Навошта табе, хлопча, гэтая вайсковая рэч?**

**Ён спрытна зняў з маёй шыі бінокль, і вось Марусін падарунак ужо ў яго на грудзях.**

**— Вася, паехалі! — кідае шафёру.**

**Машына рванулася.**

**— Секану па калёсах з аўтамата! — Яроцкі кідаецца да хаты.**

**— Адставіць, Алёшка! — стрымліваю я яго. — Ён жа ім яшчэ патрэбны...**

**Афіцэры нас палічылі за вясковых хлопцаў, адкуль ім ведаць, што мы партызаны?**

**Дзіўна, што не тыя салдаты, з каторымі мы сустракаліся, выходзячы з Каралёўскага лесу, а гэты выпадак дае мне адчуць: цяпер я не той, якім быў учора.**

— ■ —

**Сабраў я атрад на могілках у Гарадку, каб урачыста пахаваць нашых хлопцаў. Частка людзей выстрайваецца над**



**Фота: магіла Храноўскіх.**



 

 

# ТРЫБУНА чытачоў

## Яшчэ аб трускалках

Трускалкі гатунку сенга-сегана паявіліся ў Паўлах 5 год таму назад. Першы завёў іх Мікалай Алексюк, які за 4 800 зл. купіў саджанцаў і пасадзіў іх на 0,20 га. плошчы зямлі. Людзі гаварылі: «Дурань, такія вялікія грошы за невядома якое зелле аддаў». Аднак гэтае зелле хутка пакарыла цэлую вёску, і зараз кожны гаспадар лічыць сваім першапланавым абавязкам вырошчваць гэтую расліну.

I хаця плошча трускалак у параўнанні з плошчай збожжавых ці акаповых культур невялікая, аднак карысць з іх значна большая. У мінулым годзе ўраджай іх быў надзвычай вялікі. Некаторыя гаспадары ў Паўлах асягнулі плён ад 130 да 180 цэнтнераў ягад з гектара, што дало ім з невялікіх плянтацый даходу ад 20 да 40 тысяч злотых. Паўлы з навакольнымі вёскамі з'яўляюцца сур'ёзнай базай трускалак.

У гэтым годзе скуплена ў Паўлах 185 тон трускалак. Далі яны сялянам даход звыш 1,5 мільёна злотых. Найбольш купляла паўлаўскіх трускалак хлодня «Гортэкс» з Гары Кальварыі з Варшаўскага ваяводства, якая выключна спецыялізуецца ў экспарце марожаных трускалак.

Варта адзначыць, што ў гэтым годзе вельмі добра была арганізаваная скупка трускалак у Паўлах: лубянак было пад дастаткам, самаходы прыходзілі згодна з апрацаваным гарманаграмам, сяляне дапамагалі пры загрузцы і разгрузцы, і дзякуючы гэтаму не сапсаваўся аніводзін кілаграм трускалак у магазіне, хаця куплялася іх вельмі многа — часамі 25 тон у суткі.

**Сяргей Філіпюк**
Паўлы

## Далі аўтобус

Бандары — гэта невялікая, але прыгожая вёска ў Беластоцкім павеце. Яе маляўнічасць незвычайная; распалажана яна над ракой Нарвай. Праз вёску праведзена электрычнасць, ёсць тэлефон, дзве крамы, млын, які славіцца на тэрыторыі Беластоцкага і Гайнаўскага паветаў. Побач гэтага млына разыходзяцца тры дарогі, якія спалучаюць гэту вёску са светам. Адна дарога ідзе на поўдзень — спалучае Бандары з вёскамі суседняга Гайнаўскага павета, другая дарога вядзе на поўнач і спалучае вёску з далёкай Ялоўкай, а трэцяя і найважнейшая дарога для вёскі — гэта траса Беласток — Бандары. Па ёй штодзень ад'язджаў і прыязджаў аўтобус ПКС з Беластока.

Выгадна і нявыгадна было карыстаць людзям з гэтага аўтобуса. Выгадна, бо можна было даехаць у горад на працу, у школу ці да доктара. Нявыгадна — бо ПКС ад'язджаў вельмі рана, у 4 гадзіны і 45 мінут, і калі хтосьці хацеў штосьці купіць, вымушаны быў таксама рана ўставаць і разам з рабочымі і школьнікамі ехаць у горад у Беласток, а там чакаць да 8 гадзіны марнуючы некалькі гадзін часу патрэбнага ў гаспадарцы. Але дзень 22 мая г. г. прынёс добрыя навіны для людзей. У гэты дзень змяніўся рух паяздоў і аўтобусаў на ўсіх дарогах. Змянілася сітуацыя і ў Бандарах. Сюды далі яшчэ адзін аўтобус ПКС, які ад'язджае з Бандароў у 11 гадзін і 30 мінут.

Цяпер ў далёкім Беластоку не трэба будзе чакаць да 8 гадзіны на адкрыццё крамы, бальніц і ўстаноў.

**Янэк Бура**
вёска Тарнопаль



**Працаўнікі рамонтна-будаўлянага пункта дзяржаўных лясоў.**

## У Белавежскай пушчы

За часы народнай улады многа змяняецца на лепшае не толькі ў нашых вёсках і гарадах, але таксама ў самай Белавежскай пушчы. Калі пабываць у пушчы, дык усюды адчуваюцца клопаты аб ёй. У пушчу заглянула механізацыя. Кожнае надлясніцтва мае свае камплекты машын, трактараў, якія значна хутчэй і лепш выконваюць лясныя працы. Змяніліся таксама і лясныя дарогі. Калісьці ў цэлай Белавежскай пушчы была толькі адна дарога акопаная равамі і выжвіраваная. Мясцовыя людзі звалі яе «ахотнічай», а гэта таму, што гэтай дарогай прыязджаў толькі цар на паляванні. Сёння ўжо такіх дарог у пушчы многа. Амаль кожная лясная дарога акопана равамі і выжвіраваная, часамі нават не горшая ад тых, па якіх у нас ходзяць аўтобусы. А такіх «жвіровак» у пушчы штораз больш. Будуюць іх самыя надлясніцтвы, а таксама Пункт рамонтна-будаўляны дзяржаўных лясоў у Белавежы.

Тэкст і фота
**Юрка Скепка**
Альхоўка

## Карысны пачын

Школу ў Чэхах Арлянскіх паставілі недзе пасля вайны. Ставілі яе сяляне вёскі грамадскай працай. хаця тады мала хто ведаў пра грамадскія чыны. Чэхаўцы, людзі вельмі дружныя і працавітыя і без ніякай дапамогі на працягу кароткага часу паставілі будынак.

Зараз школа аказалася зацеснай. Цяпер у Чэхах стаяць два будынкі, дзе вучацца дзеці. Адзін — гэта пабудаваны грамадскім чынам, другі — прыватны цесны пакойчык. Сяляне Чэхаў Арлянскіх па сваёй ініцыятыве і пры дапамозе Прэзідыума ГРН у Дубічах Царкоўных і асветных улад распачалі грамадскім чынам будову фундаменту пад новую школу. На гэты раз ужо вялікую, прыстасаваную да школьных патрэб. Забавязаліся яны цэлы фундамент і іншыя нефаховыя работы выканаць грамадска. На другі год школу запланавана аддаць у агульнае карыстанне.

**Мікалай Панфілюк**
вёска Дубічы Царкоўныя



# Сардэчныя тайны

**ДАРАГОЕ СЭРЦАЙКА!**

Нарадзіўся я і жыву на Гайнаўшчыне. Мне ўжо 17 год, а маёй сястры 19. У нас памерла маці, калі мне было 12 год. Бацька дагэтуль не думаў нават жаніцца, але цяпер сказаў мне і маёй сястры, што хоча ажаніцца з удавой (яна жыве ў нашай вёсцы). Нас гэта абурае, навошта ж бацьку жаніцца цяпер, калі мы ўжо дарослыя. Я незадоўга пайду ў войска, а сястра восенню мае выходзіць замуж. Ад гэтага часу, калі нам бацька аб гэтым сказаў, у нашай хаце непрыемная атмасфера. Сястра ўвогуле не гаворыць з бацькам. Надаела мне ўжо такое жыццё, не ведаю, што рабіць, як пераканаць бацьку, што ён не мае рацыі. Падкажы мне, Сэрцайка. Чакаю твайго адказу.

**Міша**
з Гайнаўшчыны

**Дарагі Міша!**

Мая парада разачаруе цябе. Не бацька твой памыляецца, а іменна ты і твая сястра не маеце рацыі. Бацька апякуецца вамі ўжо 5 год без маці, яму напэўна было цяжка. Цяпер вы ўжо дарослыя. Сястра выйдзе замуж восенню, а ты пойдзеш у армію, і бацька астанецца адзін. Аднак адзінокае жыццё і цяжкае, і сумнае. А бацька твой жа ж яшчэ малады, дык чаму ж ён мае пражыць сваё жыццё адзінокім? Ты ж таксама некалі ажэнішся, будзеш мець сваю сям'ю, свае клопаты. Таму і бацька мае права мець прыяцеля ў жыцці, з якім разам будзе дзяліць клопаты і радасці. Ты павінен пагаварыць з сястрой, пераканаць яе і абое перапрасіць бацьку за вашыя адносіны да яго. Калі гэта ў вас будзе не з пераканання, дык хай будзе за тое, што бацька вас выхаваў, што добра вамі апекаваўся. Няхай зноў запануе згода і радасць у вашай сям'і.

**Сэрцайка**

## ЧЫТАЧЫ ПЫТАЮЦЬ-„НІВА" АДКАЗВАЕ

**Пытанне:** Я маю два ўчасткі зямлі. На адным я пабудаваўся. Да другога маю даезд 2,5 км. Гэты даезд можна было б скараціць да 200 метраў, каб зрабіць дарогу праз поле суседа, але той на гэта не згаджаецца. Ці можна патрабаваць праз суд ўстанаўлення даезду праз поле суседа?

**Адказ:** Цывільны кодэкс у арт. 145 прадбачыць магчымасць устанаўлення за аплатай праезду да дзялянкі, якая не мае доступу да публічнай дарогі. У вашым выпадку вашыя ўчасткі маюць доступ да публічнай дарогі і таму сам факт, што даезд праз поле суседа быў бы для вас выгаднейшым, не дае асноў да патрабавання праз суд вызначэння вам гэтай дарогі.

**свежымі магіламі для салюта. Усе гатовы. Чакаем падвод з трунамі.**

**У канцы вуліцы паказваюцца і яны. З усіх мацярок самай нешчаслівай здаецца мне Храноўшчыха. У лясах загінулі адзін за адным яе муж і два сыны. За Шурку адчуваю сябе страшэнна вінаватым. Ох, каб можна было падысці да яе і ва ўсім прызнацца! Толькі ж, калі даведаецца, што сын загінуў ад кулі сяброў, старой будзе цяжэй. Аднак усё роўна трэба, беднай, сказаць некалькі слоў уцехі. Мяне ўсяго разбірае страх; як буду гаварыць і глядзець ёй у вочы, як Храноўшчыха перажыве пахаванне апошняга сына?**

**Падводы спыняюцца перад варотамі. Адразу вакол іх збіраецца мо сотні дзве гарадоцкіх баб. Восем партызан разрываюць натоўп, становяцца па чатырох, нясуць да варот дзве труны. За імі тэпаюць згорбленыя бацька Толіка Русіна і Янкевічыха.**

**Тым часам Храноўшчыха, пакуль хлопцы вернуцца за яе сынам, застаецца сядзець на возе і абдымаць дамавіну. З другога боку труну трымае яшчэ нейкая старая. Змаўкае натужлівае завыванне баб, перастаюць хліпаць насы. — Як выкапалі ў Каралёўскім лесе майго Шурку, як гляну на яго, а ён, ах бо-ожа, такі харошы, нібы сёння пахаваны! — у мёртвай цішы расказвае з напевам, нібы хваліцца, Храноўшчыха, — I валасы, і цела, і скура, і адзенне... — У балоце ляжаў, мусіць, — сцвярджае сяброўка. — А я свайго адкапала на двары турмы. Сторож паказаў, дзе яго тады завалілі. Пазнала па адзенні. Цела не было. Косці толькі засталіся, і тыя моцна зрошчаныя. Ды крыху валасоў... — развважліва і без ценю жалю кажа яна.**

**З натоўпу выходзіць да іх трэцяя маршчыністая кабета, абапіраецца аб дошкі воза.**

**— А я свайго вырашыла не даставаць, — уключаецца ў размову. — Не хочу яго выкопваць, бо тады трэба рваць на кавалкі і раскідаць іншых, — кажа яна, поўная спакою ад таго, што толькі адна яна мае права гэта вырашыць. — Ён пад самым нізам, няхай разам і ляжыць... Не магу вытрываць. Тут ніякія словы не патрэбны, як не патрэбны і мае пакаянні. Бабы абрынуцца, што парушаю святую гутарку мацярок. Вяртаюся да сваіх з яшчэ большым цяжарам на сэрцы.**

## Толькі ў Тафілаўцах

У грамадзе Дубічы Царкоўныя ўсе вуліцы маюць добрыя маставыя, якія абсаджаныя дрэвамі. Толькі ў Тафілаўцах да гэтага часу брук быў знішчаны, а ў некаторых месцах зусім яго не было. I таму тут цяпер ідзе перабудова вуліцы. Брук кладзе Мікола Чарнецкі.

**Мікола Панфілюк**
Дубічы Царкоўныя

# ЦЭНЫ

Ваяводская камісія цэн пастаянна сочыць за цэнамі на кірмашах, дзе не абавязваюць дзяржаўныя цэннікі. Яе працаўнікі ў мінулым тыдні ў чацвер — у Беластоку, а ў сераду — у Гайнаўцы аднатавалі наступныя цэны (у злотых):

| прадукт | мера | Беласток | Гайнаўка | Бельск |
|---|---|---|---|---|
| жыта | цэнт. | 290 | 300 | Кірмаш не адбыўся |
| пшаніца | цэнт. | 450 | 360 | |
| яйкі | 1 шт. | 1,70 | 1,50 | |
| масла | кг | 54 | 60 | |
| ялавічына | кг | 34 | — | |
| свініна | кг | 35 | — | |
| сала | кг | 33 | — | |
| бульба новая | кг | 1,20 | 2 | |
| бульба стар. | кг | — | 0,80 | |
| цыбуля | кг | 8 | 6 | |
| капуста | кг | 2,50 | 2,50 | |
| морква | кг | 5 | 5 | |
| буракі | кг | 4 | 3 | |

# КІНО

**Праграма**
**на 2—7. VIII. 1966 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**

„Błękitny krzyż" (polski), 2—3. „Cisza! na sali operacja" (radz.), 4—5. „Sposób bycia" (polski), 6—7.

**Кляшчэлі**

„Przyroda i my" (radz.), 2—3. „Umarli milczą" I s. (radz.), 4—5. „Umarli milczą" II s. (radz.), 6—7.

**Дубіны**

„Umrzeć w Madrycie" (franc.), „Kuba w ogniu" (kubański), 6—7.

**Нарва**

„Droga przez cmentarz" (radziecki), 3—7.

**Нараўка**

„Był sobie dziad i baba" (radziecki), „Czarne skrzydła" (radziecki), 3—7.

**Дубічы Царкоўныя**

„Ambicja" (radz.), „Czas miłości" (radz.), 6—7.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Opowieść znad Donu" (radz.), „Człowiek, który stchórzył" (radziecki), 3—7.

**Орля**

„Jest taki chłopak" (radz.), „Koniec naszego świata" (pol.), 3—7.

**Райск**

„Pingwin" (polski), „Człowiek z przeszłością" (radz.), 3—7.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

„Tajemnica szyfru" (radz.), 2—3. „Giuseppe w Warszawie" (polski), 4—5.

**Міхалова**

„Pięć łusek" (NRD), 2—3. „Bandyci z Orgosolo" (włoski) 4—5. „Zabawy w muzeum" (węgierski), 6—7.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**

„Jesienny dzień" (wietnamski), 2—3. „Towarzysz Regent" (czeski), 4—5. Szkarłatne godło odwagi" (USA), 6—7.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„12 milionów Holendrów" (holenderski), 2—3. „Jo-jo" (franc.), 4—5. „Zawsze w niedzielę" (pol.), 6—7.

**Шудзялава**

„Karambol" (węgierski), „Kanciarze i spółka akcyjna" (angl.), 3—7.

**Сідра**

„Tanganica" (radz.), 2—3. „Sklep przy głównej ulicy" (czeski), 4—5. „Wystrzał" (pol.), 6—7.

**Сухаволя**

„Pożegnania" (polski), 6—7.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Новы Двор**

„Cena odwagi" (bułgarski), „Ktoś obok ciebie" (NRD), 3—7.

**Ліпск**

„Komiczny świat Harolda Loyda" (franc.), „Manekin Pis" (holenderski), 3—7.


# НІВА

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. nalzelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok 1 Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie. 5 $ — w USA.

Nakład 5458. Biłk D-3




 

# НІЎКА

## КУЛЬТУРЫСТА

Закахаўся я па самыя вушы. Толькі адвагі не хапала прадставіцца каханай. Прычынай гэтаму была мая вельмі слабавітая фізічная пабудова. І таму вырашыў я перш за ўсё развіць свае пасобныя часткі цела і асабліва — мускулы. Каб дабіцца прыгожага выгляду, трэба перш за ўсё сістэматычна падымаць гіры. Пачаткова невялікія, а пасля ўсё большыя.

Пачаў я ад 50-грамовых. Пасля некалькіх такіх трэніровак кроў пачынае жывей кружыць у жылах, а вока набірае бляску.

Гіры падымаем пераменна то левай то правай рукой, каб раўнамерна развіваць мускулы абедзвюх рук.

Я хутка пераканаўся, што перыяд уступнай трэніроікі далёка за мной і таму перакінуўся на 100-грамовыя гіры. Трэніроўка з такімі гірамі шмат даражэйшая і больш складаная, бо патрабуе большага перахілу, затое яна дасканала вырабляе гнуткасць хрыбта.

Ну што ж, падыманне гір, як і кожная дысцыпліна спорту не абыдзецца без адпаведных фінансавых сродкаў. Па нейкім часе дайшоў я да вываду, што падыманне гір гэта проста мая стыхія і таму пачаў задумоўвацца, ці не перайсці на прафесію спартсмена. У гэты час я ўжо даходзіў да 500-грамовых гір. Усё ж такі пачаў адчуваць стомленасць, асабліва на другі дзень пасля трэніроўкі.

Пастаянна таксама прыглядаўся ў люстра і пераконваўся, што мая трэніроўка не без вынікаў. Асабліва карысныя змены заўважыў у развіцці носа. Ён значна пабольшыўся ды набраў здаровых, румяных упадаючых у фіялетавы колераў.

Рашыў, што цяпер можна каханай прадставіцца.

У той дзень мы доўга з сябрам (таксама спартсменам) трэніраваліся ў клубе. Пасля пайшлі да яе. Сябра пачакаў на лесвіцы, а я распрануўся, напяў мускулы і націснуў клямку.

Адмовіла. Сябра таксама патурбавалі і адвезлі ў «дом матысякаў». Хто ж зразумее жанчыну!

А зрэшты, мо гэта і не былі яе дзверы?

**Славамір Мрожэк**

### СОН

— *Ці ваш муж таксама гаворыць праз сон?*

— *Гаворыць? Ён яшчэ больш нахабны: ён усміхаецца.*

### АД МАЦІ І ДА МАЦІ

*Сустрэліся на вуліцы дзве сяброўкі.*

*— Адкуль ты ідзеш?*

*— У маці была. Напякла яна пірагоў, варэння мне наварыла.*

*Дамоў нясу.*

*— Добра табе — усё ад маці ды ад маці. А да маці нічога не носіш?*

*— Як не нашу? Кожны тыдзень нашу да яе бялізну, каб памыла.*

### ХВАЛЬКО

**Ну, й любіць комін выхваляцца:**
**«Гару я увесь час у працы!»**
**Хаця даўно вядома ўсім,**
**Што не гарыць — праводзіць дым...**

### СІТУАЦЫЯ

**— Чаму ты, калі за рулём, п'еш?**

**— А калі я не за рулём, дык мне не ставяць.**

### ХТО ЗБАГАЦЕЕ

Лісіца ўзялася за пяро. Дзісертацыю напісаць вырашыла. На тэму: «Не сядай на вожыка, бо ўколе...»

Бабер запярэчыў:

— Ад гэтага навука багацейшаю не будзе.

— Пры чым тут навука?.. А я?! — здзівілася Лісіца.

### ПАРАДА

У аднаго мужыка моцна разбаleліся зубы. Ён доўга цярпеў страшны боль і нарэшце прастагнаў:

— Здаецца буду на сценку лезці.

— Дык здымі ты туфлі, каб не пабрудзіць сцену, мы ж нядаўна рэмонт зрабілі — параіла жонка.

## ДАЛЬБО ПРАЎДА...

■ кажуць, што на некаторых пунктах скупу жывёлы на абавязковыя пастаўкі мяса можна вязці замест кормніка або бычка пару соцен злотых і ў першую чаргу атрымаеш квіт, што ты ўжо ў разліку з дзяржавай. Ведай, што людзі там заўсёды дапамогуць у жыццёвых клопатах.

■ кажуць, што як не маеш грошай, а табе раптам захацелася зафундаваць жонцы заграначнае мехавае пальто, або задумалася папанску пажыць і пафарсіць нейкі час, дык да гмінай спулдзельчай касы хутчэй пішы заяву, што будуеш хлеў або гумно. Не хвалюйся, што не паверыць. На гаспадарскія будаўляныя інвестыцыі прызначаюцца на пазыкі вялікія сумы грошай. (мх)

### МАЛАКО

*— Колькі літраў малака дае ваша карова?*

*— Дзесяць.*

*— А што вы робіце з гэтым малаком?*

*— Два літры самі выпіваем, а дванаццаць адвозім у горад.*

Загараў пры зацьменні сонца.

На рыбалцы

Прашу 10 сантыметраў гэтага матэрыялу на сукенку.

А апрача слова «дурань» ты штонебудзь яшчэ ўмееш?

Не дамся, каб мяне рэзалі.

Спатканне.

## РАНА-РАНЕНЬКА

**Песня для жаночага голаса з баянам.**

Умерана

Рана-раненька ў садочку
Я прыкмеціла слядочкі.
Хтось тут вечарам блукаў,
Ля акна кагось чакаў.

Я пазнала, адгадала, —
Маё сэрца падказала,
Што ў садку начной парой
Быў, хадзіў каханы мой.

Мусіць, доўга ад змяркання
Ён чакаў са мной спаткання.
І хадзіў туды - сюды,
І пакінуў тут сляды.

Пакладу на ўсе слядочкі
Яблынь маладых лісточкі,
Каб вятры не замялі,
Каб дажджы не залілі.

Мама строга наказала,
Каб я позна не гуляла,
Каб з кіно адна ішла, —
Дома вечарам была...

Ой, няўжо ёй невядома,
Што уседзець нельга дома,
Калі любы пад акном,
Калі хораша кругом!